# ПРАЦЭС БЕЛАРУСАЎ у БЕЛАСТОКУ.

*Ленкевіч.* Не, ў чрэзвычайцы ня быў.

*Аб. Міцк.* Ці бачыў сьведка сам стрыхнін і цыян-калі і дзе іменна?

*Ленк.* Бачыў у Мэрачы?

*Аб. Міцк.* Які-ж яны мелі выгляд і як сьведка пераканаўся, што гэта іменна былі гэтыя труцізны?

*Ленк.* Яны былі ў бутэльках, і мне сказаў Хмара, што гэта—стрыхнін і цыян-калі.

*Аб. Міцк.* Якога калёру былі гэтыя растворы ў бутэльках?

*Ленк.* Бутэлькі былі абвернуты ў паперу...

*Аб. Міцк.* Больш пытаньняў ня маю.

*Аб. Славінскі.* Сьведка сказаў, што і пасьля таго, як заявіў аб усім у паліцыю, ён бачыўся з Маслоўскаю і Матэйчук. Аб чым-жа вы вялі размовы?

*Ленк.* Маслоўская гаварыла, што хацела быцатаманам банды, як будзе добра, калі пачнеццваўстаньне, калі можна будзе на чале банды грабіць і забіваць палякаў...

*Аб. Славін.* Сьведка казаў сам, што быў назначаны начальнікам Сакольскага пав. і прыняў назначэньне?

*Ленк.* Але.

*Аб. Славін.* Значыцца пад загадам сьведкі былі ўсе другія працаўнікі арганізацыі ў павеце, як Гораш, абодва Каляды, Жамойда і інш. Сьведка казаў, што грошы на павет атрымоўваліся праз начальнікаў паветаў. Значыцца, сьведка павінен быў плаціць грошы сваім падпарадкаваным і партызанам, атрымліваў ад іх расьпіскі Ці атрымліваў сьведка гэткія расьпіскі?

*Ленк.* ня ведае які даць адказ.

*Аб. Славін.* Ці бачыў хаця сьведка гэткія расьпіскі дзе-небудзь сам: тут ці ў Штабе? Чаму ніводнай гэткай расьпіскі няма?

*Ленк.* Адказывае, што ніводнай расьпіскі сам ня бачыў. Бачыў толькі *бляпкі* для гэткіх расьпісак, уложаных згодна з „інструкцыяй“.

*Аб. Рэйнгард.* Сьведка ня ведае, ці сябры арганізацыі давалі прысягу?

*Ленк.* Так, было штосьці на манер прысягі, якую давалі пісьменна.

*Аб. Рэйнгард.* Значыцца і сьведка сам даў гэткую прысягу на вернасьць арганізацыі, ма'быць, урачыста абяцаўшы не выдаваць і яе тайну?

*Ленк.* Не, фармальнай прысягі ня было і я падпісаў толькі „przyrzeczenie“.

*Аб. Рэйнгард.* Толькі...

*Абар. Врублеўскі.* Сьведка добра ведае ўсе беларускія арганізацыі. Ен казаў нам, што яны дзяліліся на чатыры групы з Штабамі ў Коўне, Уцянах, Аранах і Мэрачы. А на дапросе ў сьледавацеля сьведка сказаў, што іх толькі тры і назваў іх начальнікаў. Я прашу прачытаць гэтае мейсца з паказаньняў сьведка, каб ён мог успомніць, што ён гаварыў тады і выбраць з сваіх двух супярэчных паказаньняў тое, якое, па ягонай думцы, праўдзівае

Суд пастанаўляе прачытаць адпаведнае мейсца з паказаньняў Ленкевіча на пачатковым сьледзтве.

Там запраўды пасьля пералічэньня тых-жа чатырох груп, што ўсіх паўстанчых арганізацый было тры, на чале якіх стаяць Якавюк, Алексючанка і Разумовіч-Хмара. Пра літоўскую дэфэнзыву там нічога ня гаварыцца.

*Абар. Врублеўскі.* Дык ўсёж-такі, урэшці, колькі-ж усіх: тры ці чатыры. І як гэта Разумовіч, выходзіць, стаіць на чале чацьвертай групы, а на чале трэцяй арганізацыі стаіць той самы Разумовіч?

*Ленк.* Цьвердзіць, што тут супярэчнасьці няма. Існуе тры самастойныя і незалежныя адна ад другой асобныя беларускія арганізацыі—Якавюка, Аляксючанкі і ня то Разумовіча, ня то Ластоўскага. Арганізацыя-ж Разумовіча дзеліцца на чатыры групы, да аднэй з іх належыць Горадзеншчына.

Але тады ужо зусім незразумела, чаму Ленкевіч, а за ім і акт абвінавачаньня ставіць Якавюка ў сувязь з арганізацыяй Разумовіча!!! Ясна што асьведамлённасьць Ленкевіча — больш чым проблематычна!...

*Абар. Врублеўскі.* Сьведка сказаў, што Баран--паэт. Што-ж ён рабіў у арганізацыі? Пісаў вершы аб аружным паўстаньні, ці што?

*Ленк.* Хмара казаў, што Баран, як паэт—не карысны для справы.

*Абар. Врублеўскі.* Сьведка кажа, што ўвайшоў у арганізацыю толькі дзеля таго, каб „zaskarbić“ сабе прыхільнасьць паліцыі. Ці гэта так?

*Ленк.* прызнае гэтае, але дадае, што апрача таго... (?)

*Абар. Врублеўскі.* Для чаго сьведку была патрэбна прыхільнасьць паліцыі? Можа ён хацеў паступіць туды на службу?

*Ленк.* Але...

*Абар. Врублеўскі.* І падаваў заяву?

*Ленк.* Падаваў.

*Аб. Врубл.* І атрымаў адмову?

*Ленк.* Але.

*Аб. Врубл.* Ці не памятае сьведка точна, калі ён падаваў заяву аб паступленьні на службу ў паліцыю?

*Ленк.* У чэрвені 1921 г.

*Аб. Врубл.* А калі ўвайшоў у арганізацыю?

*Ленк.* У пачатку сьнежня таго-ж году

*Пракурор* (жадаючы зьменшыць уражэньне гэтага). Можа ў сьведкі былі і іншыя пабуджэньні ўвайсьці ў арганізацыю і выдаць яе ўладам?

*Ленк.* Я—паляк. Увайшоў у беларускую арганізацыю, якая ставіла сабе мэтай ніштчыць палякаў, шпіоніць на карысьць літоўцаў і немцаў. Маё польскае сэрца і сумленьне абліваліся крывёю, але я пастанавіў давесьці справу да канца, азнаёміцца і захапіць усю арганізацыю. Каб толькі я хацеў устроіцца на службу ў паліцыі, я мог бы застацца ў Літве, дзе мне прапанавалі пасаду „вывядоўца“. Але там таксама прасьледавалі палякаў.

*Пракурор.* Ці ня было ў беларускай арганізацыі сувязі з Сав. Расеяй? І ці ня было на мэце, на выпадак паўстаньня злучыцца з Савецкай Беларусяй?

*Ленк.* Пэўна-ж. Была сувязь з Савецкім пасольствам у Коўні. Але наогул тры паказаныя арганізацыі па сваім палітычным сымпатыям і арыентацыям рожніліся адна ад другой: першая (з Якавюкам на чале? была „расейска-манархічная“; другая (з Аляксючанкай?) „савецка-расейская“, трэцяя (з Разумовічам?)—„літоўская“.

*Абв. Гораш* просіць слова і кажа, што словы Ленкевіча аб яго польскім патрыятызме для яго навасьць. Лянкевіч у гутарках з ім, здаецца ад чыстага сэрца лаяў палякаў, Польшчу і тутэйшыя парадкі; хваліў Савецкую Расею. Казаў. што там было добра, а тут здыхаеш бяз мейсца з голаду. Казаў, што ў Расеі быў камісарам. І ня ён, Гораш, уцягнуў Ленкевіча ў арганізацыю, а Ленкевіч Гораша.

*Ленк.* кажа, што гэта—няпраўда.

*Абар. Врубл.* зварачвае ўвагу суду на тое, што ўжытае праз Ленкевіча літоўскае слова „Цэнтровальдыбэ“ зусім не азначае, як перавёў яго Ленкевіч—дэфэнзыва. „Цэнтровальдыбэ“ азначае цэнтральны ўрад. А дэфэнзыва палітоўску—„цэнтрожвальгібэ“.

*Прадс.* Для суду гэта ня цікава. Магчыма, што сьведка проста зьмешаў з прычыны падабенства.

*Аб. Врубл.* Для мяне важна, што гэта не дэфэнзыва.

*Абвін. Маслоўская.* Сьведка Ленкевіч кажа, што ўвайшоў у арганізацыю дзеля таго толькі, каб выдаць яе паліцыі. Але я магу прывесьці шэраг фактаў, якія сьведчаць, што Ленкевіч „працаваў ідэйна“. Ен быў самым энэргічным і адданым працаўніком, даваў свае грошы на арганізацыю, калі не хапала, вэрбаваў другіх. Ня ведаю, чаму ён потым стаў іншым і цяпер кажа такія рэчы.

*Ленк.* Заяўляе, што гэта няпраўда, што ён у арганізацыі нічога не рабіў...

*Абар. Славінскі.* А толькі грошы браў...

Шэраг абвінав. — Грыгас, Станкевіч і інш. таксама паказваюць на шэраг няпраўдаў у паказаньнях Ленкевіча. Усе яны ў адзін голас паказываюць на тое, што Ленкевіч граў самую актыўную ролю ў арганізацыі, а галоўнае вэрбаваў у яе сябраў.

*Абар. Міцкевіч* вымагае „конфронтацыі“ (навочнай стаўкі) Ленкевіча з тымі з абвінавачаных, якіх ён тут абгаварыў, бо як выясняецца, іменна ён іх уцягнуў і запісаў у арганізацыю, а не наадварот. Было-б запраўды надта дзіўным, што той самы Ленкевіч, які гэтак добра знаў арганізацыю і тут, як па пісанаму яе намаляваў, без найменшай запінкі, у гэтай самай арганізацыі тагды, ня граў ніякай ролі, „нічога не рабіў“, як сам гавора. Мы ведаем, што ў падобных канспіратыўных арганізацыях асьведамлённасьць, даверыя і ўплыў заваёўваецца запраўднай актыўнай працай. Азэфу так сама прышлося браць удзел не ў адным тэрорыстычным акце.

*Абв. Андрэй Каляда,* якога Ленкевіч перш абгаварыў, а пасьля стараўся зьменшыць свае абвінавачаньні (свой свайго не адразу пазнаў) заявіў, што ў яго размова з Ленкевічам, праўда, была кароткая, але Ленкевіч казаў яму, што „трэба ствараць арганізацыю і ўваходзіць у яе“.

*Абар. Міцкевіч* просіць запісаць у пратакол, што шэраг абвінавачаных заявілі, што Ленкевіч сам уцягваў іх у арганізацыю і што Каляда паказаў, што Ленкевіч сказаў: „трэба стварыць арганізацыю“.

*Абв. Гораш* дапаўняе свае паказаньне. Ленкевіч прыходзіў да Жамойды, прыносіў загады Хмары, нагаварваў яго ўвайсьці ў арганізацыю.

*Абв. К. Матэйчук* кажа, што часта бываючы ў іх доме, Ленкевіч гаварыў, што як быў у Расеі, дык служыў у Вітэбскай чрэзвычайцы, дзе шмат людзей разстраляў за „контр-рэвалюцыю“, што ў Пяцербурзе працаваў у Савеце Рабочых і Сялянскіх Дэпутатаў.

*Ленк.* Гэта ўсё няпраўда.

*Абв. Маслоўская* падцьвярджае, што іменна Ленкевіч запісаў і вазіў у Мэрач Гораша, Каляду Андрэя і Жамойду, што Ленкевіч не аднаго прызыўнога асабіста вывез з Горадзеншчыны ў Літву. „Па важнейшым маім даручэньням заўсёды езьдзіў Ленкевіч сам і ўсе іх выпаўняў надта добра“

*Ленк.* Гэта—няпраўда.

*Гораш.* Ленкевіч доўга і ўпарта ўгаварываў мяне ўвайсьці ў арганізацыю. Казаў, каб я не баяўся паліцыі, што дасьць шмат грошай, якія прывязе з за граніцы.

*Ленк.* Гэта—няпраўда. Што датыча таго, што я ўперад дрэнна жыў без працы і дзеля гэтага паступіў у арганізацыю, дык гэта таксама няпраўда: у мяне ў Амэрыцы дзядзька, які прысылаў мне даляры і я жыў добра.

*Абар. Міцкевіч.* Я хачу запытацца ў сьведкі, на якія срэдствы ён цяпер жыве? На даляры таго самага амэрыканскага дзядзькі? Мне яшчэ трэба ведаць ці займаў якое-небудзь мейсца альбо наогул ці займаўся якой-небудзь працай сьв. Ленкевіч з таго часу, як пакінуў „ідэйна працаваць“ у арганізацыі?

*Ленк.* просіць прадседацеля звольніць яго ад адказа на гэтыя пытаньні.

*Аб. Міцк.* паясьняе, што Суду і асабліва абароне трэба гэтае ведаць для таго, каб давесьці ступень верагоднасьці сьведкі: той, хто працуе, займаецца пастаяннай працай, больш заслугоўвае на веру, чым той, хто нічога ня робіць і жыве хаця-б коштам амарыканскага дзядзькі.

*Ленк.* зноў пытаецца ў прадседацеля, ці можа ён не адказваць.

*Аб. Врубл.* Сьведка ня мае права не адказваць на пытаньне аб тым, чым ён займаецца. Дзеля гэтага я проста запытаюся ў сьведкі: ці ён служыць цяпер у дзяржаўнай паліцыі?

*Ленк.* (чуць чуваць і не адразу) Але.

*Прак.* Служба ў Польскай паліцыі ня ганьбіць чалавека.

*Аб. Врубл.* Я прашу Суд устанавіць, што я ані слова не сказаў аб тым, што служба ў паліцыі ці польскай, ці няпольскай мае ганьбіць каго небудзь

*Аб. Міцкевіч.* Дык вось, сьвед. Ленкевіч прызнаўся, што атрымліваў грошы ня толькі ад амэрыканскага дзядзькі, але і ад літоўскага. . . Цяпер—ад польскага . . . Але ён хоча заставіць нас верыць. што ён у арганізацыі зусім нічога не рабіў. Гэта яўная няпраўда. Для нас ясна, што ён быў адным з самых чынных сябраў арганізацыі, калі нават ня чапаць яго матываў, ён рабіў там ня менш, чым сама Вера Маслоўская.

*Ленк.* Я быў падпарадкованы Веры Маслоўскай і езьдзіў па яе загадам.

*Абар. Міцк.* Магчыма. Але сам сьведка Ленкевіч расказаў нам, што „загаворшчык“ Ленкевіч быў назначаны тым самым Хмараю такім-жа „начальнікам павету“, якім была і Вера Маслоўская. Яны былі адназначны і не маглі адзін другому загадываць, а маглі толькі рабіць агульную справу.

*Ленк.* Маслоўская была арганізатаркай і, як гэткая, была вышэй за мяне. А потым—праўда: мы былі роўныя.

*Аб. Врублеўскі.* Сьведка не памятае, ці ня чуў ён у Літве пра Разумоввічі, што ён быў пры бальшавікох у Горадні камандантам гораду?

*Ленк* Ня чуў.

Пасьля гэтага Ленкевіч расказвае, што грошы, атрыманыя ім з Літвы на работу і як пэнсыя, часта прапіваліся ў кампані мужа і жонкі Шыманюкоў, абедзьвюх сясьцёр Веры і Аўгені і іх брата Кастуся . . . Трэба думаць, што і сам сьведка Ленкевіч быў ня толькі простым сьведкай гэтых папоек, калі яны, запраўды, былі . . . Раз, быццам, былі прапіты ў адзін вечар усе 40.000 нямецкіх марак, прывезеных з Мэрача.

## Сьведка Лізавета Шыманюк.

Жонка Гэрмана Шыманюка („Скамароха“)

Паяўленьне жонкі вядомага „атамана Скамароха“ у вялізарнай чырвонай хустцы, выклікае парушэньне ў залі. Калі Ленкевіча можна было назваць „jeune premier“ ўсяго працэсу, дык Лізавэта Шыманюк, жонка актора маскоўскага тэатру „Буф“, сама артыстка таго-ж тэатру, зьяўляецца настаяшчай прымадоннай усяе пастаноўкі „беларускага дзейства“ на беластоцкай сцэне.

Збавіўшыся нейкім цудам у Пушчы з рук „абкружыўшай крыювку“ паліцыі, Шыманюк-Скамарох, відавочна, пакінуў жонку ў надта добрых руках: красуня пані Шыманюкова мае вельмі добры, румяны, адкормлены выгляд. Перш артыстычна выяўляе нясьмеласьць і сарамлівасьць. . . На пытаньні прадседацеля чуць чуваць, апусьціўшы вочы, адказвае, што папольску не разумее зусім і можа гаварыць толькі парасейску і адказываць на пытаньні...

Прадседацель галантна дазваляе і сам аб'-

А сам Жамойда ўмаўляў каго-небудзь увайсьці ў арганізацыю?

*Туст.* Такіх вестак ня было

*Аб. Слав.* Просіць і гэта запісаць у пратакол.

*Абар. Врублеўскі.* Скажэце, сьведка, ваш інфарматар Грыгор Злоцкі ссылаўся ў сваіх паведамленьнях на «высокую асобу». Я проста назаву гэтую „высокую асобу“: гэта Барыс Савінкаў,— так?

*Туст.* Так.

*Абар. Врублеўскі.* Ці ўвайшоў Злоцкі з метай інфармацыі ў беспасрэдны кантакт з групай Ластоўскага? Ці быў ён, напр. у Празе?

*Туст.* Не памятаю.

*Абар. Врубл.* Ці ня гаварыў Злоцкі сьведцы з якіх крыніц мае ён весткі?

*Туст.* пачынаючы нэрвавацца, маўчыць.

*Абар. Врубл.* Злоцкі даў сьведцы розныя весткі аб розных асобах, між іншым і аб Баране. Сьведка, як запраўдны, маючы досьлед, вывядовец, павінен быў зацікавіцца і запытаць Злоцкага, адкуль паходзяць ягоныя інфармацыі. Тым болей, што, як сказаў сам сьведка, яму ня было добра вядома, што Злоцкі ўвайшоў у беспасрэдны кантакт з групай Ластоўскага і ці быў ён на зьезьдзе ў Празе.

*Туст.* (ўсё больш раздражняючыся) Злоцкі працаваў пры нашым Штабе і ведаў усё адтуль. Не ад Ластоўскага. Злоцкі меў добрыя інфармацыі, але гэтых далейшых крыніц нельга назваць.

*Абар. Врублеўскі.* Хай сьведка ня думае, што хачу заставіць яго выдаць ягоныя ці Злоцкага службовыя сакрэты. Я добра разумею, што ёсьць „канспіратыўныя“ агенты, ёсьць контр-разьведка на тым баку, агентаў якой назваць ня можна. Але-ж мне нічога гэтага ня трэба. Мне важна толькі устанавіць, што Злоцкі сьведцы, а сьведка нам не назваў крыніц сваіх вестак. З мяне гэтага досыць. Злоцкі чуў ад „канспіратыўнага агента“, сьведка чуў ад Злоцкага, мы чуем цяпер, ужо праз трэцяе зьвяно ў ланцугу, ад сьведка..

*Туст.* раздражнёна зварочываецца да прадседацеля, просячы яго звольніць ад адказаў абароне.

*Прадс.* успакаівае сьведку.

*Абар. Врублеўскі.* Сьведка сярдуе, але-ж у мяне няма ніякіх іншых срэдстваў. Яшчэ адно пытаньне сьведцы. Сьведка на пачатковым сьледзтве гэта самае паказываў аб Злоцкім?

*Туст.* Не памятаю.

*Абар. Врубл.* просіць прадс. дапамагчы памяці сьведкі і ўстановіць, што сказана і ці сказана што-небудзь у паказаньнях сьведкі ў сьледавацеля аб Злоцкім?

*Прадс.* сьцьверджае, што ў паказаньнях Тустаноўскага ў сьледавацеля аб Злоцкім ніяма ніводнага слова.

*Абар. Врубл.* просіць прадс. даць спраўку, ці няма новых вестак аб выніках паўторнага вызаву незьявіўшагася сьведкі Злоцкага.

*Прадс.* запытаўшыся ў сэкрэтара, заяўляе, што яўка на суд Злоцкага, здаецца, безнадзейна.

*Прадс.* прапануе абвінавачаным задаваць пытаньні сьведцы.

*Абвін. Станкевіч.* Калі гэта я казаў на дапросе, што выдам усіх, калі мяне звольняць?

*Туст.* Гэта было не на дапросе, а ў прыватнай гутарцы.

*Абв. Станк.* Адкуль гэты чалавек ведае, што я быў у чырвонай арміі?

*Туст.* Гэта мне казаў Цыклінскі, якому вы самі казалі.

*Абв. Станк.* Усё гэта няпраўда. Нікому я нічога ня казаў. Ні з якім Цыклінскім не гаварыў.

## ЧАЦЬВЕРТЫ ДЗЕНЬ

Далейшы дапрос сьведдкаў.

*Аб. Врублеўскі* прад'яўляе суду зборнік газэтных выразак і розных друкаваных дакумэнтаў і адозваў, датычачых беларускага руху, у тым ліку і рэзалюцыі Пражскага зьезду.

„Гэта збор з майго архіву і ня мае ў сабе афіцыяльна зацьверджаных дакумэнтаў. Але йдучы на спатканьне суду, жадаючы толькі высьвятліць праўду, асабліва праўду аб Пражскім зьезьдзе, прадстаўляю суду той матэр'ял, які я меў, не застанаўляючыся перад тым, што ў рэзалюцыях ёсьць месцы, якія паслужаць хутчэй на руку абвінавачаньня, чым абароны. Я зусім аб'ектыўны і не хачу утойваць тое, што мне вядома аб зьезьдзе. Я прапаную суду абзнаёміцца з зборнікам і з надрукаванай у газэце ў свой час рэзалюцыі зьезду і дазволіць мне саслацца толькі на адно месца ў гэтых рэзалюцыях па маёму выбару і гэтае месца, дзе гаворыцца, што беларусы ня хочуць ні Масквы, ні Варшавы, і папрашу суд аб'явіць, ня чытаючы ўсіх рэзалюцый. З свайго боку — тое самае прапаную п. пракурору — аб'явіць любое месца рэзалюцый па ягонаму выбару.

Пры гэтым лічу абавязкам далажыць суду, што цяпер у горадзе знаходзіцца пасол Тарашкевіч, які сам быў у Празе на зьезьдзе; быў там зусім легальна з патрэбнымі візамі; пасол Тарашкевіч адзін з лепшых знаўцаў беларускага руху, адначасна быў відным урадоўцам ураду ген. Жэлігоўскага. У выпадку згоды суду, пасол Тарашкевіч мог бы даць нам дакладныя інфармацыі аб зьезьдзе, аб парадку працы на ім, а таксама пасьведчыць аўтэнтычнасьць прадстаўленых мною рэзалюцый“.

*Прадс.* прапануе выказацца пракурору.

*Прак.*, азнаёміўшыся з тэкстам рэзалюцый не спраціўляецца проціў прапазыцыі абар. Врублеўскага, з свайго боку паказаўшы пажаданы— яму для абвяшчэньня абзац. Адносна запрашэньня ў суд пасла Тарашкевіча рашуча спраціўляецца, пакрыўджана паказываючы на тое, што суд адмовіў яму, дзякуючы спраціву абароны, у вызаве новага сьведкі па новым абвінавачаньням проціў падсуднага Баранава. Цяпер-жа просіць Суд па тым-жа матывам, якія тады былі разьвіты абаронай, адмовіць і ёй самой цяпер у падобным хадатайстве. Абаронай прапушчаны тэрмін для вызавы гэтага сьведкі—гэта яе справа.

*Абар. Врублеўскі.* Пан пракурор дужа ня точны. Абарона пратэставала проціў дапушчэньня, як новага сьведкі, Камэнданта Горадзенскай паліцыі не дзеля таго, што праціўнай стараною прапушчаны тэрмін, а дзеля таго, што гэта зусім новая справа: прад'яўляліся сярод працэсу зусім новыя абвінавачаньні, якіх няма ў акце абвінавачаньня, якіх абарона, прадстаўляючы сваіх сьведкаў не магла прадбачыць. І мы, тады дамагаліся альбо даць нам 7 днёвы тэрмін для прадстаўленьня контра-сьведкаў па новым абвінавачаньням, альбо выдзяленьня справы Баранава ў асобную справу. Аналёгія надта далёкая. Пасол Тарашкевіч проста паможа нам разабрацца ў пытаньні аб Пражскім зьезьдзе

Суд удаліўся і вынес рэзалюцыю: дазволіць старонам ссылацца на паказаныя імі месцы рэзалюцыі, якія абвесьціць, хадатайству абароны аб запрашэньні на суд пасла Тарашкевіча — адмовіць.

## Сьведка Станіслаў Ярэцкі.

шэф II аддзелу штабу Д. О. К. у Горадні

Капітан *Ярэцкі*, як гаварылі ў кулуарах, сябра P. P. S. Гэта — клясычны экзэмпляр тэй тыпічнай для „Польшчы Пілсудскага“ чалавечай пароды, якая так лёгка аб'яднала ў сабе адзнакі „сацыялізму“ з актыўнай службай у „ахранцы“, —„штабныя аксэльбанты з чывонай какардай“. . . Гэта добра выхаваны, карэктны, асабіста заслугоўваючы на даверыя, прадстаўнік „чыстых“ вярхоў дэфэнзывы, які ня ведае тэй „чорнае“ працы, праз якую атрымліваюцца тыя „паведамленьні агентаў“, якімі ён бяскрытычна апэрыруе, будуючы на іх усю будову свайго „элябората“. Трагізм ягонага становішча ў тым, што пры ўсім сваім асабістым недаверыі, якое часам прарываецца ў ягоных адказах—нават пагардзе да сваіх агентаў, ён усёж-такі астаецца цалком у іхніх руках. . . З гэтай прычыны ўся стройная, з гэткай „літэратурнай апрацоўкай“ зробленая будова ягоных паказаньняў руйнуецца пры першым датыканьні.

Усё гэтае з прысутным яму чыста сакратаўскім мастацтвам выявіў на судзе—клясычны мастак судовага дыялёга — абаронца Врублеўскі. І запраўды, часам дапрос абаронцам Врублеўскім сьведкі Ярэцкага напамінае, нават з вонкавага боку, дыялёг Сакрата з Альківіадам. . .

Сьведка зьяўляецца на паўторны вызаў суду і прыймае прысягу.

*Кап Ярэцкі* кажа, што ягонае паказаньне можа даць толькі тое, што ён знае з данясеньняў ягоных падуладных і тых дакумэнтаў, якія ён меў; беспасрэдным сьведкам гэтых падзей ён, бязумоўна, па свайму становішчу быць ня мог.

Справа аб паўстанчай арганізацыі вядома яму з даных разьведкі Генар. Штабу і рожных іншых дакумэнтаў. Істнуючы ў Коўні т. зв. урад Ластоўскага з самага пачатку стаў на пазыцыю варожыю да Польшчы. Гэта выяўляецца як у міжнароднай дыплёматычнай антыпольскай прапагандзе, так-сама і ў праступнай агітацыі ў межах Польшчы, асабліва сярод беларусаў. Характар ураду і ягонай акцыі на Беларусі - ваенна-рэвалюцыйны. Мэта — падрыхтаваць у Літве і на мясцох беларускія аружныя аддзелы і партызанскія атрады дзеля таго, каб у патрэбны мамэнт падняць і падтрымаць паўстаньне проціў Польшчы, і аддзеліць ад яе беларускія абшары. На зьезьдзе ў Празе, дзе былі і прадстаўнікі нашай разьведкі, гэты рэвалюцыйны напрамак яскрава выявіўся і меў за сабою вялізарную большасьць. Баранаў быў ярым прадстаўнікам гэтага напрамку. Тарашкевіч быў за лягальную эвалюцыйную тактыку змаганьня.

Баранаў быў у цясьнейшым кантакце з Ластоўскім і зьяўляецца адным з сэкрэтароў ягонага кабінэту. Ен меў ад Ластоўскага мандат на Горадзеншчыну для падтрыманьня тут тайнай ваеннай арганізацыі проціў Польшчы. Сувязь беларускіх ваенных аддзелаў у Літве з мясцовай арганізацыяй— бязумоўна; і тая і другая камплектавалася з элемэнтаў расфармаваных і дэмабілізаваных аддзелаў бышай беларускай арміі ў Польшчы. Уся праца, якая вымагала срэдстваў, ішла не за шчот беднай Літвы, а, пэўна-ж, за грошы стаяўшай за Літвою Нямеччыны. У нашым Штабе ёсьць пэўныя весткі аб тэй пазычцы ў 10 мільёнаў ням. марак, якая была зроблена нямецкім урадам на гэтую справу Літоўскаму ўраду.

Далей сьведка паўтарае тое, што і яму вядома і нам ужо вядома з паказаньняў Ленкевіча, аб IV групе, аб Разумовічу, аб арганізацыі Горадзенскіх партызанаў і г. д. Хмара павадыр беларускіх партызанаў, разам з тым афіцэр Літоўскай арміі; штаб Хмары адначасна зьяўляецца аддзелам літоўскай контр-разьведкі ў польскай Беларусі. З гэтага боку гэта арганізацыя, якая мае заданьне шпіёнства. Есьць дакумэнты, інструкцыі, каб зьбіраць весткі, датычачыя ваенных сілаў і баявых матэр'ялаў Польшчы. Есьць весткі, дастаўленыя ў наш Штаб быўш. афіцэрам расейскай арміі капіт. Лазаравым, падуладным мне агентам, аб шэрагу асоб, якія ў характары літоўскіх шпіёнаў, служаць на пэнсыі літоўскага ураду. У ліку гэтых асоб на адным з першых месц фігуруе Сымон Якавюк.

Арганізацыя Разумовіча арганізавала і зьдзейсьніла шэраг тэрарыстычных актаў, нападаў, разбояў, замахаў . . . Дзейнасьць гэтай арганізацыі ня скончылася і цяпер —пасьля арышту абвінавачаных у гэтым працэсе. Нядаўны ўзрыў мосту каля Турмонтаў - справа рук тэй-жа арганізацыі. У дзейнасьці гэтай зусім зьліваюцца элемэнты беларускага ідэйнага патрыятызму, рэвалюцыйна-камуністычнага тэрору, платнага шпіянажу на карысьць Літвы і Савецкай Расеі, угалоўнага бандытызму і асабістай карысьці.

Пасол Баранаў меў мандат ад Ластоўскага кіраваць усей „збройнай акцыяй“ у Горадзеншчыне. Аднаму з маіх агентаў дадзена было даручэньне наняць пакой побач з памешканьнем Баранава. Жывучы за сьцяной; ён чуў усе размовы і нарады, быўшыя ў Баранава. Характэрна для Баранава гэткае напр. павядамленьне агента. У Горадзенскім Судзе разглядалася справа нейкага Курбскага- Кузьняцова, які абвінавачываўся ў камуністычнай прапагандзе сяорд моладзі. Перад вынясеньнем прыгавору ў Баранава адбываліся нарады аб арганізацыі баёўкі, каб, у выпадку прысуду, адбіць Кузьняцова, па дарозе у канвоя сілаю. Апраўданьне Кузьняцова зрабіла непатрэбным увесь гэты плян. У часе нарады былі галасы няпрыхільныя да гэтага, але голас Баранава яўна дамінíраваў. Ягоная заява, што „польскаму суду ня можна верыць“—перамагла.

*Пракурор.* Ці не вядома, сьведцы, што Баранаў, ужо пасьля выбараў яго ў Польскі Сойм, езьдзіў па Горадзеншчыне і вёў антыполскую агітацыю?

*Ярэцкі.* Я ня маю яшчэ даклдных вестак. Знаю, што ёсьць паліцэйскія пратаколы. Здаецца пасол Баранаў гаварыў, што шляхам лягальным Беларускі народ нічога ад Польшчы не дабьецца. Але за дакладнасьць ня магу ручацца.

*Прак.* Кім Баранаў быў у Горадні пры бальшавікох?

*Ярэцкі.* Есьць даныя, што ён быў старшынёю Юрысконсульскага аддзелу Рэв. Трыбуналу.

*Прак.* Ці не вядома сьведцы, што на гэткім пасту мог быць толькі чалавек блізкі да Рэвкому і Чрэзвычайкі?

*Ярэцкі.* Так, думаю, што мог быць толькі „mąż zaufania“ Чрэзвычайкі.

*Прак.* Хмара-Разумовіч ці ня ёсьць гэта мянюшка Мамонькі, беларускага рэвалюцыйнага дзеяча?

*Ярэцкі.* Не. Мамонька і Разумовіч — асобы рожныя.

*Прак.* Што сьведцы вядома аб Якавюку? Ці езьдзіў ён у Літву?

*Ярэцкі.* Вядома нават, што ён у свае прыезды заходзіў у „вывядоўчае бюро“.

*Прак.* Быў у Мэрачы?

*Ярэцкі.* Есьць пэўныя весткі—на падставе паведамленьняў агента Лазарава.

*Прак.* Ці невядома сьведцы аб сувязі паміж арганізацыяй і ўрадам Ластоўскага з Савецкай Расеяй?

*Ярэцкі.* Есьць весткі, што і тая і другая нават арганізацыйна аб'яднаны з Савецкай Расеяй—у абоіх штабах ёсьць прадстаўнікі Камуністычнай Расеі, якія маюць кіраўнічыя ролі.

*Прак.* Ці невядома сьведцы, ці былі, апрача абвешчаных у газэтах рэзалюцый Пражскага Зьезду, яшчэ сакрэтныя пастановы, прынятыя на тайных паседжаньнях зьезду? І ці не гаварылася ў іх аб аружным паўстаньні проціў Польшчы?

*Ярэцкі.* Былі. Ня тыя, што надрукаваны ў газэтах. Былі наогул як высьнілася варожыя да Польшчы. Точна аб аружным паўстаньні—ня памятаю.

*Прак.* Скажэце, сьведка, вам вядома, ці былі ў арганізацыі склады аружжа?

*Ярэцкі.* Былі пэўныя весткі, што былі нават кулямёты, мусіць закапаныя ў Пушчы.

*Прак.* Ці вядома сьведцы аб складах аружжа ў Мэрачы для патрэб арганізацыі?

*Ярэцкі.* У Мэрачы быў вялізарны склад, абслугоўваўшы ўвесь район IV групы. Адтуль перавазілася аружжа праз граніцу.

*Прак.* Што сьведцы вядома аб ролі абвінав. Вайткевіча?

*Ярэцкі.* Вайткевіча я сам два разы дапрашываў і добра знаю. Пераехаў граніцу конна на ўласным кані ў поўнай форме літоўскага афіцэра. На першым дапросе заявіў, што, як польскі патрыёт, ня мог больш заставацца ў Літоўскай арміі- Для доказу назваў каля двух дзесяткаў асоб, якім ён, як „камендант кардоннага адцінку“ выдаў прапускі на пераход граніцы з Літвы ў Польшчу і якія па ягоным словам зьяўляюцца літоўскімі шпіёнамі ў Польшчы. Калі сьведка запытаў у Вайткевіча, ці ня знае ён асоб што пераходзілі граніцу з Польшчы ў Літву, а пасля вароча́ліся назад з літоўскімі пропускамі, Вайткевіч сказаў, што гэткіх было шмат, што ён сам выдаваў прапускі, але дзіўная рэч— ніводнага прозьвішча з іх ня мог прыдумаць. Гэта было надта падазрёным і вырашала ягоны лёс.

